ПАГОНЯ

Чацвер
14 верасня 2000 г.
№ 34 (481)
Кошт 70 рублёў

## Юбілейнае дзіця

**У суботу ў Доме грамадзянскіх абрадаў было зарэгістравана нараджэньне тысячнага ў гэтым годзе дзіцяці.**

Арцемій зьявіўся на сьвет 29 ліпеня 2000 году ў беларусаў Сяргея і Жанны Салітаў. Хлопчык ня першае дзіцё ў сям'і - немаўлятка ўжо мае старэйшую сястрычку Марту.

На ўрачыстай рэгістрацыі бацькам уручылі памятныя сувэніры, а турагенцтва Інтурсэрвіс спрэзэнтавала малому цёплы камбінезончык.

Як паведамілі супрацоўнікі Дому грамадзянскіх абрадаў, неўзабаве адбудзецца рэгістрацыя і тысячнага ў гэтым годзе шлюбу.

Юлія Дарашкевіч

## У Лідзе атруцілі людзей

**З 7-га па 11-е верасня ў Лідзе было зарэгістравана ажно 298 захворванняў на кішэчнае атручванне. 76 хворых на дызентэрыю трапілі ў шпіталі. Большасць з іх - дзеці.**

Падчас эпідэміялагічнага дасьледавання была вылучана версія, што прычынай масавага атручвання стаў лідскі малочна-кансервавы камбінат. Магчыма, хтосьці з работнікаў камбіната быў хворым і занёс у прадукты «кішэчную палачку». Паколькі хвароба працякала ў слабой форме, яе носьбіт не быў своечасова выяўлены.

Як паведаміла ПАГОНІ супрацоўніца Цэнтра прапаганды Гарадзенскага ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях Раіса Масько, на дадзены момант у Лідзе праводзіцца дасьледаванне ўсіх 237-і работнікаў камбіната, прадпрыемства школьнага харчавання, магазіна, які забясьпечвае харчаваннем дзіцячыя ўстановы горада. Адабраныя пробы для аналізу на прамысловую стэрыльнасць, правяраюцца рэштkі малочнай прадукцыі ў сямі школах і сямі магазінах.

Ул.інф.

## Дваццаты, юбілейны!

**17 верасня Гарадзенскі абласны тэатр лялек урачыста адкрые свой дваццаты, юбілейны сезон.**

Імпрэза пачнецца тэатралізаваным шэсьцем у цэнтры гораду і ля будынку тэатру. А 12-й гадзіне ўвазе юных гледачоў будзе прапанаваны прэм'ерны спектакль у пастаноўцы народнага артыста Украіны Сяргея Яфрэмава «Казка вандроўнага лялечніка». Увечары а 19-й гадзіне акторы запрашаюць дарослых на свой самы папулярны спектакль - бесьсмяротных купалавых «Тутэйшых».

У другой палове верасьня, у выходныя, дзеці змогуць сустрэцца з казачнымі героямі са спектакляў «Неверагодны ілюзіён», «Прыгоды Пінокіо» і «Доктар Айбаліт». У кастрычніку гарадзенскія лялечнікі прымуць удзел у тэатральных фестывалях у Торуні (Польшча) і Ужгарадзе (Украіна).

Ігар Гандлеўскі

## Калі няма работы на Радзіме...

**Гарадзенскія спецыялісты будуць будаваць жыллё у Падмаскоўі.**

Паміж кіраўніцтвам падмаскоўнага горада Віднае і дырэкцыяй арэнднай фірмы «Гроднажылбуд» заключаны дагавор на будаўніцтва шасьці буйнапанэльных жылых дамоў. На канец верасня запланаваны афіцыйны пачатак будаўніцтва, якое, як мяркуецца, будзе весціся 2-3 гады. Адзін квадратны метр жылля будзе каштаваць навасёлам 244 даляры ЗША - гэта значна танней, чым у расейскіх домабудаўнікоў. Нарэшце, згодна з умовамі падраду, для таго, каб зрабіць будаўніцтва больш танным, частку апрацоўчых работаў навасёлы будуць рабіць сваімі сіламі.

Ася Куніцкая

## Надвор'е

14, 15 верасня - воблачна, з праясненнямі, месцамі - ападкі, уначы магчымыя прымаразкі, вецер слабы, 4-9 м/с. Тэмпература паветра 14 і 15 верасня - уначы +3...+6, удзень +10...+15.

# Лепей бібікі біць, чым такія выбары




# Бел-чырвона-белы сцяг скралі людзі з Тэльмана

**У пятніцу гарадзенцы адсьвяткавалі 486-ыя годкі Аршанскай бітвы. Гарадзенскі гарвыканкам забараніў правядзенне сьвяточных мерапрыемстваў, запланаваных Гарадзенскай арганізацыяй БНФ «Адраджэньне» на 8 верасня. Таму сёлета Дзень Беларускай Вайсковай Славы адзначаўся не так масава і гучна, як у мінулыя гады. Але беларусы не забываюцца на сваіх славутых продкаў. Насуперак забаронам уладаў сьвята адбылося.**

Распачалося сьвяткаванне а 15-й гадзіне ля канцэртнай залы «Гродна» выставай карцінаў гарадзенскага мастака Дзмітрыя Іваноўскага, прысвечанай беларускаму ўзбраенню. «Мэтай выставы, - адзначае мастак, - было паказаць, што беларускае войска - не сяляне з косамі, а сапраўдныя ваяры, узброеныя адпаведна тагачаснаму ўзроўню вайсковай тэхнікі». На чатырох палотнах выдатна прасочваецца трансфармацыя ўзбраення ваяроў Вялікага княства Літоўскага з часоў Віценя да перыяду Аршанскай бітвы, якая назаўжды ўвайшла ў гісторыю як узор выдатнай вайсковай тактыкі. 8 верасня 1514 года 30-тысячнае войска ВКЛ на чале з гетманам Канстанцінам Астрожскім мужнасцю і вайсковым умельствам разбіла пад Воршай 80-тысячнае войска маскоўскага князя Васіля III.

На думку Дзмітрыя Іваноўскага, пад бел-чырвонабелымі сцягамі ягоныя творы глядзеліся б больш уражліва. Іх з'яўленне магло быць расцэненае як арганізацыя несанкцыянаванага пікету, і была рызыка, што карціны канфіскуюць. Але такое сьвята не магло абысціся без беларускага сцяга. І ён з'явіўся. На закінутай на дрот лесцы над вуліцай Савецкай залунала бел-чырвона-белае палотнішча.

Неўзабаве з'явіліся міліцыянты. Два маёры ды капітан накіраваліся да выставы. Падзівіліся на карціны, але не знайшлі ў іх нічога забароненага. Тады вырашылі дачапіцца да раздачы гістарычных даведак пра Аршанскую бітву. Маёр міліцыі, які адмовіўся назваць сваё прозвішча, заявіў, што «распаўсюджанне нагляднай агітацыі без пазначэння накладу і месца друку з'яўляецца грубым парушэннем перадвыбарчай кампаніі». Давялося патлумачыць неадукаванаму чалавеку, што Аршанская бітва ніякага дачынення да выбараў у лукашэнкаўскую палату не маюць. Таму, ні з чым міліцыянты вярнуліся да машыны. А ў гэты час двое ў цывільным, што ад пачатку выставы дзяжурылі непадалёк пад слупом, знялі сцяг і зніклі з ім у накірунку вуліцы Тэльмана...

На гэтым міліцыянты не супакоіліся. Праз пару хвілінаў за распаўсюджанне ўлётак незарэгістраванай арганізацыі былі затрыманыя два маладафронтаўцы. Кіраваў затрыманнем ужо добра вядомы чытачам ПАГОНІ капітан міліцыі Аляксандр Вялічка. Ён старанна наведвае амаль усе акцыі гарадзенскай апазіцыі, і ўжо не першы раз ягонымі намаганнямі маладафронтаўцам даводзіцца адседзець колькі гадзін у Ленінскім РАУС, што па вуліцы Тэльмана. Гэтым разам, праўда, хлопцаў адпусцілі праз паўгадзіны без складання пратаколу.

Па заканчэнні выставы ўдзельнікі сьвята ўсклалі кветкі абаронцам Айчыны да памятных месцаў Гародні. У Каложскай царкве была адслужана паніхіда па Канстанціну Астрожскаму ды палеглых у Аршанскай бітве беларускіх змагарах. Завяршылася сьвяткаванне канцэртам маладых гарадзенскіх бардаў Валерыя Руселіка і Вячаслава Жукава.

Алеся Сідлярэвіч



## Бульба як сымбаль нацыі

**Што можа аб'яднаць селяніна, студэнта, настаўніка і працоўнага? Што прымушае ахвяраваць выходнымі, адкладваць працу і вучобу, што суцішае нават палітычныя баталіі? Бульба! Так, яна, роднenькая, сёньня займае сэрцы і рукі кожнага беларуса. Увесь народ заняты выкопваньнем і нарыхтоўкай свайго «другога хлеба».**

**Што для Вас ёсьць бульба? - з такім пытаньнем мы зьвярнуліся па тэлефоне да гарадзенцаў.**

**Васіль Салей, намесьнік дэкана агранамічнага факультэту сяльгасунівэрсытэту:**

- Для мяне бульба - гэта цэлы сусьвет. Гэта і тэхнічны прадукт, і лекавая расьліна - зь яе ж сьпірт вырабляюць!..

**Мечыслаў Гіруць, дачнік:**

- Для мяне бульба, як і для кожнага беларуса, другі хлеб. Я вось вырошчваю адмысловы сорт - «сінявочка». Дык яна такая крухмальная, што яе нават без шкваркі добра есьці. Не сказаў бы, што ў гэтым годзе бульба ўрадзіла - не зусім добрая сёлета.

**Валянціна Шадура, загадчыца вытворчасьці рэстарана «Беларусь»:**

- У маім жыцьці бульба - на першым месцы. Яе можна варыць, смажыць, парыць, запякаць... Я, напрыклад, умею гатаваць больш за дваццаць страваў з бульбы. Гэта ж самая першая закуска! На любым мерапрыемстве, калі няма бульбы, стол здаецца пустым.

**Іван Сьліжэўскі, старшыня вучэбна-вопытнага калгасу «Прынёманскі»:**

- Я ем бульбу кожны дзень. Больш за ўсё люблю дранікі. А ў калгасе нашым уборка ідзе нармальна. Бульба добра ўрадзіла, значыць будуць і грошы. Нарыхтоўваюць яе ў нас вайсковыя, прадпрыемствы, мо Маскве прадаваць будзем - дзе больш заплоцяць. Летась у Маскву цэлымі вагонамі бульбу цэнтралізавана вывозілі. Хопіць на ўсіх - 62 гектары засеяна.

**Сяргей Альбіцкі, студэнт:**

- Ездзілі мы капаць гэтую самую бульбу. Гэта ж катарга! Пройдзе капалка, ты - у позу на чатыры косткі і наперад. Працуем ад золку да канца баразны, ці пакуль у тую баразну не ўпадзем. Грошай з гэтага амаль ніякіх. Адно шчасьце - бульбы натырыць (накрасьці - **аўт.**) і здаць бабкам пад крамай. Хоць нейкі плён ад гэтай працы...

Бульбу ела
Юлія Дарашкевіч



Памяняю паваДок на... парлямэнцкі хот-дог!

15 верасьня а 16.00

Выбарчыя гонкі ў Будку Прадстаўнікоў!

на месцы выгулу сабак – Плошчы Бангалор

Высуньце і Вы сваиго пітомца у САБАЧЫЯ ДЭПУТАТЫ!

**У Менску на плошчы Бангалор 15 верасня адбудзецца санкцыянаваны мітынг, прысвечаны маючым адбыцца парламенцкім выбарам, парушэнню правоў грамадскіх арганізацый і свабоды слова. Ён пачнецца ў 16 гадзін. Санкцыянаваную Менскім гарвыканкамам акцыю рыхтуе Асамблея няўрадавых арганізацый. Як паведаміў адзін з арганізатараў мерапрыемства, кіраўнік праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі, гэта будзе мітынг у форме перфоманса.**

**Паколькі праходзіць ён будзе ў парку Дружбы народаў, у раёне плошчы Бангалор, вядомым месцы выгулу сабак, то арганізатары звярнуліся да будучых удзельнікаў акцыі з заклікам прывесці з сабой сваіх чатырохногіх гадаванцаў.**

**«У парку будуць наладжаны сабачыя гонкі ў «Будку прадстаўнікоў». Будуць вылучаны кандыдаты ў сабачы парламент. Акрамя забегу, адбудуцца і «выступленні сабак ад мікрафонаў» ды іншыя трукі. Мэта акцыі - выказаць стаўленне да выбарчага фарса, праводзімага Лукашэнкам, - сказаў Бяляцкі, - а таксама да таго месца, якое ўлады вызначылі для правядзення масавых мерапрыемстваў».**

# Дзень Беларускай Вайсковай Славы пад «Русскую» гарэлку

**З усяе Беларусі зьехаліся людзі ў мінулыя выходныя пад Воршу, каб адзначыць Дзень Беларускай Вайсковай Славы. Імпрэза з гэтае нагоды ладзілася шэрагам няўрадавых арганізацыяў на Крапівенскім полі, дзе ў 1514 годзе адбылася славутая перамога беларускага войска над маскалямі.**

Сьвяткаваньне распачалося з урачыстай імшы, якую адслужыў аршанскі ксёндз. А вось праваслаўнага набажэнства не было - бацюшка не прыехаў, хоць арганізатары і запрашалі. Відаць, забыліся праваслаўныя на тое, што Кастусь Астрожскі быў верным абаронцам праваслаўя ў Рэчы Паспалітай абодвух народаў, будаваў за свой кошт цэрквы і кляштары.

Ужо ў прыцемках распачалі свае выступы рыцарскія клюбы «Рыцары Вялікага княства», «Чорныя Драбы», а таксама беларускі рыцарскі Клюб пад кіраўніцтвам Арыны Вячоркі. Затым на імправізаваный сцэне свой пэрфоманс паказаў вядомы мастак Алесь Пушкін. Ягонае шоу прайшло пад музыку беларускай дуды з выкарыстаньнем сьвятой вады ды роднай зямлі й попелу.

Сапраўдный нечаканасьцю было зьяўленьне чатырох дзесяткаў чалавек у камуфляжнай форме (не, не мянтоў - яны ў гэты момант кудысьці хуценька зьніклі) - то краёўцы завіталі на Крапівенскае поле, каб ушанаваць памяць беларускіх ваяроў. Шмат хто параскрываў раты ад зьдзіўленьня: запаленыя паходні й роўныя шыхты чорных бярэтаў - зьява досыць нетыповая для «памяркоўных» беларусаў. Сябры Краю прадэманстравалі гледачам паказальныя баі, паскакалі басанож па бітаму шклу і таямніча зьніклі. На сцэну ў гэты час выйшлі беларускія барды Андрэй Мельнікаў, Зьміцер Бартосік, Віталь Равінскі ды іншыя.

Калісьці рэчка Крапіўна стала чырвонай ад крыві й выйшла з берагоў з-за вялікай колькасьці акупантаў у ёй. Апошнія гады стала традыцыяй ладзіць на гэтым месцы імпрэзы. Сёлета, напрыклад, танчылі й весяліліся да ранку. Беларуская тусоўка ратавалася ад верасьнёўскіх начных прымаразкаў традыцыйна - гарэлачкай. Больш таго, на полі, дзе гетман ВКЛ Кастусь Астрожскі са сваім войскам паклаў 30 тысячаў маскалёў, нейкія п'яныя кампаніі раўлі расейскія песьні. Склалася ўражаньне, што большасьць тых, хто прысутнічаў на сьвяце, прыехалі толькі дзеля таго, каб «пабухаць» на прыродзе.

Надпіс на ўсыпальні Кастуся Астрожскага засьведчыў: «Маскву з татарамі паклаўшы, выпісаў 63 над імі перамогі... дадай шмат замкаў, манастыроў, цэркваў, якія вымураваў у княстве... для калек ён пакінуў шпіталі, для дзетак - школы...». Цікава, ці будуць ўзгадваць увогуле нашыя нашчадкі тых, хто сёлета «бурна» адзначаў Дзень Беларускай Вайсковай Славы на Крапівенскім полі?

**Юлія Дарашкевіч**

# Байкот выбараў трэба праводзіць не менш актыўна, чымсьці выбарчую кампанію

**Тое, што ў нас адбываецца з выбарам прадстаўнічай ды іншай уладаў, ёсць, мабыць, галоўны парадокс сучаснага беларускага грамадства. Два бакі гэтага парадоксу выглядаюць так. Першы: нас пазбавілі права свабодна выбіраць, адабралі выбарчы бюлетэнь. Маніпуляцыямі пры вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты і пры падліку галасоў кіруючая наменклатура цалкам выключае пранікненне ў прадстаўнічыя органы ўлады тых палітыкаў, якія знаходзяцца па-за наменклатурнай сістэмай, і тым болей тых, хто знаходзіцца ў апазіцыі да рэжыму. Другі: беларускі электарат, нават ва ўмовах самага свабоднага волевыяўлення, выбірае тых, хто яшчэ болей, чым папярэднія ўлады, абмяжоўвае сваіх выбаршчыкаў у грамадзянскіх правах і абдзірае пры размеркаванні створанага працай электарата прадукта.**

> **«Я ни за кого не буду голосовать. Ни за кого! Всё равно обманут. Одни ушли со льготами, вторые придут - льготы прихватят. И ещё президента будут давить. Не потому, что я тут против выборов. Ради бога!.. Но я не пойду голосовать».**
> **(А.Лукашэнка. З тэлевыступу напярэдадні парламенцкіх выбараў, 20.04.1995 г.)**

Выбарчы парадокс можа захоўвацца як заўгодна доўга. Вельмі мала падставаў лічыць, што электарат на бліжэйшых выбарах у беларускі парламент, прызначаных на 15 кастрычніка, павядзе сябе якім-небудзь іншым чынам, чым дагэтуль. Вось менавіта такія паводзіны выбаршчыкаў выклікаюць сумневы ў паспяховым выніку кампаніі па байкоту восеньскіх выбараў у парламент, якую праводзіць беларуская апазіцыя. Байкот толькі тады прынясе плён, калі выбары будуць прызнаныя неадбыўшыміся і парламент застанецца без дэпутатаў. Тады апазіцыя здолее паставіць умовы, ад якіх Аляксандр Лукашэнка не здолее адмовіцца: альбо празрыстыя і справядлівыя выбары, альбо непрыгожы ў вачах сусветнай грамадскасці факт адсутнасці агульнанацыянальнай прадстаўнічай улады ў Беларусі.

Ці даможацца апазіцыя такога выніку байкоту? Для адказу на гэтае пытанне трэба ўзгадаць веснавыя выбары ў мясцовыя Саветы. Тады апазіцыя таксама праводзіла палітыку няўдзелу ў выбарах. Яна скончылася поўным фіяска апазіцыі, бо той байкот быў абумоўлены слабасцю апазіцыі. Такім чынам, новы байкот скончыцца перамогай, калі будзе праводзіцца з пазіцыі сілы, г.зн. да байкоту трэба ставіцца не менш сур'ёзна, чым да выбарчай кампаніі. Іначай байкот будзе ні чым іншым, як актам прамой падтрымкі рэжыму. Баюся, што апазіцыя, як гэтак званая аб'яднаная, так і кожная паасобку, хавае за байкотам сваю нядзеяздольнасць і ляноту, рыхтуе справаздачу за «бесцельно потраченные» гранты.

Між тым, незадаволенасць насельніцтва сёння дасягае самых высокіх велічыняў за ўсе гады кіравання А.Лукашэнкі і яго наменклатуры. Народ хоча зменаў, хоча, каб ягоныя інтарэсы выяўлялі людзі, якія ведаюць, як паправіць становішча да лепшага. Як справядліва заўважана, улада змяняецца альбо з дапамогай выбараў, альбо з дапамогай «аўтамата». Сёння мы маем становішча, калі адукавана праведзеная выбарчая кампанія (кампанія байкоту) можа мірна змяніць уладу. Тым болей, што ніхто не ўтойвае таго, што сёлетнія парламенцкія выбары ёсць генеральнай рэпетыцыяй прэзідэнцкіх выбараў 2001 года.

Стаўкі настолькі вялікія, што правал прывядзе да замацавання рэжыму яшчэ на пяць, як найменей, гадоў. Калі аналізаваць інтарэсы выбаршчыкаў, то такі вынік задаволіць пенсіянераў ды люмпенаў, якія складаюць пераважную меншасць беларускага грамадства. А адказная за свой лёс і будучыню сваёй краіны большасць стане ахвярай чарговых фальсіфікацыяў невялікай купкі прадажнай наменклатуры. Так ізноў можа выявіць сябе беларускі выбарчы парадокс, які жыве выключна таму, што апазіцыя завальвае адну выбарчую кампанію за другой.

Чыстых выбараў можна чакаць да скону. А мы хочам жыць тут і зараз. І ўскладаем на апазіцыю вялікія спадзевы. Трэба нарэшце апраўдваць давер народа, шаноўнае спадарства.

**Сяргей Самасей**

# Амелька і Жалезняковіч хаваюць вынікі выбарчай кампаніі?

**4 верасня скончыўся тэрмін падачы дакументаў на рэгістрацыю кандыдатамі ў дэпутаты на маючых адбыцца 15 кастрычніка «парламенцкіх выбарах». Але атрымаць у мясцовых органах улады праўдзівыя звесткі адносна колькасці вылучаных кандыдатаў надзвычай складана.**

Напрыклад, клерк гарвыканкама па сувязях з грамадскасцю Віктар Жалезняковіч на просьбу ПАГОНІ паінфармаваць пра вынікі першага этапу выбараў адказаў, што інфармацыя будзе пададзеная толькі пасля заканчэння рэгістрацыі і толькі старшынём упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі аблвыканкама Уладзімірам Амелькам на спецыяльнай прэс-канферэнцыі.

Навошта такая сакрэтнасць? Што ўтойваюць Амелька з Жалезняковічам?

**Сяргей Самасей**

# Сойм БНФ за актыўны байкот

**9 верасня адбыўся чарговы, верасьнёўскі Сойм БНФ «Адраджэньне» й Партыі БНФ. Асноўны акцэнт падчас Сойму быў зроблены на дзейнасьці БНФ і ўсёй аб'яднанай апазыцыі ў рамках кампаніяў Байкот-2000 і Народны Рэфэрэндум.**

З дакладам на тэму «БНФ і кааліцыя» выступіў старшыня БНФ «Адраджэньне» й Партыі БНФ Вінцук Вячорка. Значную ўвагу ён надаў нядаўнім рашэньням тэхнічнай канфэрэнцыі АБСЭ, якая прайшла 30 жніўня ў Вене. Як зазначыў спадар Вячорка, «венскія рашэньні - адназначна на карысьць дэмакратычных сілаў, бо гаворкі пра міжнародных назіральнікаў быць ужо ня можа». Апроч усяго, былі адзначаныя тэндэнцыі падзеньня рэйтынгу Лукашэнкі: апошнія сацыялягічныя апытаньні сведчаць, што менш за 50 адсоткаў людзей гатовыя ісьці на выбары, калі ня будуць выкананыя чатыры ўмовы АБСЭ.

Намесьнік старшыні БНФ Віктар Івашкевіч правёў інструктаж рэгіянальных лідараў Фронту наконт правядзеньня поўнамаштабнай кампаніі Байкот-2000 у рэгіёнах: правядзеньне пікетаў, абыход кватэраў, збор подпісаў за чатыры ўмовы АБСЭ. Было падкрэслена, што байкот выбараў ня ёсьць парушэньнем закону.

**Ул. інф.**

З моманту зьнікненьня нашага калегі Дзьмітрыя Завадскага мінула

69 дзён

Мы патрабуем ад уладаў тэрміновага расьледаваньня абставінаў гэтай справы.



# Гарадзенскія камуністы распачалі вайну за вяртанне маёмасці КПСС

**Недарэчная спрэчка паміж старымі камуністамі і выкладчыкамі Гарадзенскага дзяржуніверсітэта можа ператварыцца ў сапраўдную вайну за будынак былога абкамаўскага Дома палітасветы.**

Зараз тут месціцца філалагічны факультэт. Аднак універсітэт не з'яўляецца ўласнікам вышэйпамянёнага гмаху, а толькі арандуе памяшканні ў Гарадзенскага аблвыканкама. Увесну некаму з філфакаўскіх начальнікаў захацелася стварыць яшчэ адзін «навучальны кабінэт». Ну, вядома, лекцыйных залаў жа не хапае. Нават былы буфет перарабілі на аўдыторыю! Цяпер нічога лепшага не прыдумалі, як на чацвёртым паверсе насупраць прыбіральні прарубіць у сцяне праём, а вялікі пакой перагарадзіць мурочкам з цэглы. (Быццам такім чынам павялічыцца плошча).

Якраз гэтая акцыя і абурыла старых камуністаў, якія паскардзіліся ў аблвыканкам. Маўляў, арандатары парушаюць архітэктуру будынка. Хопіць таго, што ў былым партыйным доме панарабілі нейкіх катухоў ды яшчэ перанеслі з галоўнага корпусу універсітэта музей Зоф'і Налкоўскай. Дарэчы (ці не іронія лёсу?), раней у галоўным корпусе музей польскай пісьменніцы таксама знаходзіўся насупраць прыбіральні.

Пасля скаргі камуністаў будаўніцтва новага кабінета на лета замарудзілася. Але пачаўся навучальны год і трэба нешта рабіць: або дабудаваць кабінет, або заляпіць дзіру ў сцяне. Бедныя прыбіральшчыцы шчыруюць і шчыруюць, уздымаючы на ўвесь калідор хмары цэментавага пылу. І дурню зразумела, што ў гэтай аўдыторыі займацца немагчыма.

Акрамя філфакаўскіх кафедраў і аўдыторыяў у будынку два пакоі займаюць курсы павышэння кваліфікацыі выканкамаўскіх і гаспадарчых работнікаў, пра што сведчыць вялізная чырвоная шыльда на шкляных дзвярах уваходу. Універсаўская ж «візітоўка» знаходзіцца недзе збоку прыпёку, так што недасведчаны чалавек адразу і не заўважыць.

Ходзяць чуткі, што рана ці позна, але будынак зноў вернецца ў рукі колішніх гаспадароў, а філфак перасеяляць некуды на задворкі. Тады старыя камуністы, якіх ніколі не пакідала надзея вярнуць усё «на кругі своя», зноў займеюць магчымасць займацца «адукацыйнай» дзейнасцю.

**Сакрат Гарадзенскі**

# Міжнароднаму каравану пагражаюць АМАПам

**У мінулы чацвер Міжнародны караван «Наступны Прыпынак - Новы Век» прыбыў у Гродна. Аднак гарадзенскія ўлады забаранілі амаль усю праграму каравана.**

Моладзевая культурна-асветніцкая акцыя ладзілася Рэспубліканскім моладзевым грамадскім аб'яднаннем «Некст Стоп - Нью Лайф» ды Шведскай моладзевай арганізацыяй «Peace Quest» і абяцала быць адной з самых маштабных ды масавых. За два тыдні (5-18 верасня) планавалася аб'ехаць усе абласныя цэнтры і завяршыць караван у Менску. У праграме - «круглыя сталы» з прадстаўнікамі дзяржструктураў і НДА па праблемах моладзі і моладзевага руху, вулічныя выступленні ды канцэрты, тэатральныя скетчы, джэм-сэйшэны, прэс-канферэнцыі ды іншае. У караване па Беларусі бяруць удзел 40 чалавек - музыканты, мастакі, акторы, журналісты і грамадскія дзеячы. Выходным пунктам стаў Брэст. Далейшы рух Міжнароднага каравана ажыццяўляўся па маршруту: Гродна-Віцебск-Магілёў-Гомель-Менск. Арганізатары маюць на мэце раскрыць творчы патэнцыял моладзі, далучыць маладых людзей да актыўнага грамадскага жыцця, даць ім магчымасць адчуць сябе часткай сусветнай культуры.

На працягу двух дзён у Гродне планавалася правесці прэс-канферэнцыі і клубны канцэрт у прыватным клубе «Стоп-Лінія». Аднак на другі дзень пасля прыбыцця ў горад гасцей, 8 верасня, улады Гродна паведамілі арганізатарам, што забараняюць правядзенне прэс-канферэнцыі і канцэрта. Як выявілася толькі зараз, для правядзення некамерцыйнага канцэрта ў прыватным клубе патрэбны дазвол Гарадзенскай абласной філармоніі. Старшыня аб'яднання «Некст Стоп - Нью Лайф» Святлана Каралёва на прэс-канферэнцыі акрэсліла рэакцыю ўдзельнікаў каравана на забарону ўладаў Гродна наступным чынам: «Мы вымушаныя пазбавіць свята гарадзенскую моладзь. Я не ведаю, як маладыя людзі могуць працаваць у рэгіёнах, калі так абышліся з намі. Мы не разумеем пазіцыю гарадзенскіх уладаў у адносінах да нашага праекта і ў цэлым да моладзевай палітыкі ў Гродне».

Як стала вядома, Міжнароднаму каравану ў нашым горадзе пагражалі АМАПам, забаранілі з 16.00 8 верасня з'яўляцца на БЛК у раёне «Стоп-Лініі». Арганізатары моладзевай культурнай акцыі тэрмінова шукалі залу для сустрэчы з журналістамі і знайшлі яе толькі ў гатэлі «Турыст». Уся праграма была скарочаная да канцэрта ў дыска-бары «Турыста». Былі праблемы і з рассяленнем каравана ў гарадзенскіх гатэлях - менавіта 7-9 верасня раптоўна аказаліся занятымі ўсе месцы.

Вышэйназваны «беспредел» вертыкалі матываваны распараджэннем Дзяржкамітэта па справах моладзі. Як паведамляла ПАГОНЯ ў нумары ад 31 жніўня, папярэдняя дамова аб супрацоўніцтве з уладамі была дасягнутая, на падставе чаго «НСНЛ» і разгарнула падрыхтоўку да Міжнароднага каравана. Аднак 16 жніўня Дзяржкамітэт разаслаў па ўсіх рэгіянальных камітэтах і аддзелах па справах моладзі ліст, у якім аб'явіў, што «не лічыць магчымым рэкамендаваць...падтрымаць правядзенне каравана». Ліст падпісаў старшыня Дзяржкамітэта А.Пазняк...

У выніку караван «Наступны Прыпынак - Новы Век» Гродна сустрэў своеасаблівым байкотам. Моладзі забаранілі правядзенне культурнай акцыі, якая прапагандавала здаровы лад жыцця, актыўную творчасць, грамадскія сувязі, і папросту - свята, карнавал, сяброўства. Калі ўжо і гэтага - нельга, дык што тады - можна?

**Алесь Сінькевіч**

# Разметка на Індурскай шашы перашкаджае руху

**Пра вуліцу Індурская шаша і дарогу да рэчавага рынку ў пасёлку Паўднёвы было напісана ў сучаснай гісторыі горада Гродна, напэўна, больш як пра любую іншую.**

Ад моманту ўтварэння рынку «Паўднёвы» вуліцу абяцалі пашырыць, зрабіць дзве паласы руху ў абодва бакі. Збіраліся пусціць тралейбус. Пакласці тратуары. Пад гэтую справу выкачалі з гандляроў рынку шмат грошай. Але амаль нічога не зрабілі. Дагэтуль Індурская шаша перанасычаная машынамі, якія рухаюцца з хуткасцю слімака, а жыхары пасёлка «Паўднёвы» дыхаюць выхлапнымі газамі ад ранку і да закрыцця рынку.

Больш таго. Адміністрацыя рэчавага рынку пачала выкарыстоўваць дарожныя праблемы ў сваіх карысных інтарэсах. Напрыклад, панаставіла забараняючых дарожных знакаў і пачала збіраць аплату за стаянку машыны на ўзбочыне дарогі. Тады гэты «бізнес» спыніў Дзяржкантроль. Але эксперыменты на дарозе на гэтым не скончыліся.

Зусім нядаўна па краю асфальтаванай часткі дарогі была праведзеная суцэльная белая лінія. Яна азначае, што на ўзбочыну можна з'ехаць толькі дзеля прыпынку. Гэтая белая лінія неверагодна ўскладніла і без таго складаны рух транспарту на Індурскай шашы. Справа ў тым, што раней шафёры выкарыстоўвалі ўзбочыну дарогі ў якасці фактычна другой паласы, па якой было вельмі зручна рухацца тым, хто хоча павярнуць з шашы направа, у пасёлак, альбо ехаць прама, да скрыжавання на Індуру.

Цяпер на краю дарогі стаіць патруль ДАІ і штрафуе тых, хто едзе па ўзбочыне. Мэтазгоднасць такой арганізацыі дарожнага руху не паддаецца лагічнаму тлумачэнню. У часы сталіншчыны гэта назвалі б шкодніцтвам. Бо на працягу болей як двух кіламетраў, выкідаецца з ужытку цэлая паласа дарогі.

Калі гарадскія ўлады не могуць заасфальтаваць гэтыя два кіламетры ўзбочыны, то хай бы не перашкаджалі эксплуатацыі стыхійна ўтворанай дадатковай паласы руху. Аўтар гэтага артыкула спрабаваў высветліць у патруля ДАІ, чым выклікана нанясенне белай паласы, але ў адказ пачуў толькі тое, што ўсе шафёры павінны ездзіць у роўных умовах - і тыя, што па асфальце, і тыя, што па ўзбочыне. Я сказаў, што трэба заасфальтаваць узбочыну, а не ўскладняць людзям жыццё. Міліцыянт пагадзіўся, але патлумачыў, што ў горада няма грошай. Я нагадаў, што з рынкавых гандляроў на добраўпарадкаванне дарогі былі спагнаныя немалыя грошы. «І ў чыю кішэню яны пайшлі?» - запытаўся ДАІшнік.

Без каментароў, як гаворыцца.

**Міхась Капялюш**




# Дацкі ячмень плюс нямецкі хмель = гарадзенскае піва

**Няпраўду скажаце, калі будзеце сцвярджаць, нібыта піва - летні напой. Лета прыходзіць і адыходзіць, а піва хочацца заўсёды - гавораць знаўцы з Гарадзенскага піўзавода.**

Сёння наш піўзавод выпрабляе толькі сем гатункаў піва - «Казанова», «Для Вас», «Каласок», «Таверна», «Чэмпіён», «Атэла» і «Шляхецкае». Большасць з іх - негустое светлае піва з мацункам 3-4 працэнты. Канешне, аматарам піва хацелася б піўка пасур'ёзней, мацней і смачней. Аднак на гэта ўплываюць такія празаічныя фактары, як перабоі з хмелем і нізкая якасць айчыннага соладу. Загадчыца вытворчасці ГПЗ Людміла Пастухова тлумачыць:

- Ячмень ураджаю 99-га года мы атрымалі з вельмі высокім утрыманнем бялку, што дрэнна адбіваецца на якасці піва. Яно робіцца цямней за норму для светлага піва, ды і смак не той. Таму сёлета давялося нам закупіць 1200 тон ячменю з Даніі. Так што хутка пачнем рабіць вельмі смачнае піва нашых светлых гатункаў. Таксама бярэм нямецкі грануляваны хмель, бо беларускага няма. Толькі сельгасінстытут спрабаваў летась у якасці эксперыменту вырасціць хмель. Было ў нас 200 кілаграмаў гарадзенскага хмелю - аднак гэта вельмі мала.

- Адкуль бярэцца вада для піва?

- Вада - з гарадскога водазабору. Аднак у гэтым годзе мы паставілі нямецкую сістэму ачысткі вады, выпрабленую паводле індывідуальнай замовы менавіта па нашых узорах вады, якая, як вядома, перанасычаная хлорам і жалезам. Пакуль што для піва ідзе 70 працэнтаў ачышчанай сістэмай вады, але да новага года праз фільтры будуць праводзіцца усе 100 працэнтаў вады.

- Ці не плануеце выпусціць новыя гатункі гарадзенскага піва?

- Хутчэй за ўсё, не. Па-першае, гэта вельмі дорага для нас - зарэгістраваць новы гатунак. Ды і з-за перабоеў з соладам праз нашага пастаўшчыка - Іванаўскі соладавы завод - мы трымаем-такі даволі вузкі асартымент. Наша задача якая? З меншай колькасці сыравіны наварыць больш піва, каб не было прастою завода і не перапыняўся піваварны працэс.

- На заводзе ідзе рэканструкцыя. Як яна паўплывае на якасць піва?

- Мы ўжо паставілі два новыя канічныя цыліндры - яны такія высокія, нібы бочкі, іх відаць і з вуліцы. Усяго будзе шэсць такіх цыліндраў. Дзякуючы ім мы зробім увесь працэс прыгатавання піва, ад самага пачатку да разліву, як бесперапынны, закрыты працэс. У выніку - піва будзе гатавацца на 50 працэнтаў хутчэй, будзе больш густым, моцным і, канешне ж, смачным.

- А Вы самі ды Вашыя калегі любіце піва?

- Ну канешне. Але мы больш любім непастэрызаванае піва і ўсім рэкамендавалі б піць менавіта такое. У ім - жывыя бактэрыі, мікраэлементы, вітаміны групы В і РР.

__Заўвага:__ неасветленае, ці непастэрызаванае піва цяпер можна набыць толькі ў разліў - у бочках ці ў некаторых барах - ля універмага, у барах на вуліцы Савецкай, ля рэстарана «Нёман». Прычынай вытворцы называюць недавер пакупнікоў да лёгкай каламутнасці гэтая «жывога» піва і, як вынік - нежаданне гандлю браць такое піва. Аднак у лабараторыі піўзавода сцвярджаюць, што каламутнасць гэтая - не з прычыны пратэрмінаванасці, а з-за піўных дражджэй, якія пойдуць арганізму толькі на карысць.

- Мы даўно засумавалі па густых гатунках гарадзенскага піва. Ці будуць яны ўвосень?

- Да канца кастрычніка павінна быць «Шляхецкае», а на Дзень работніка харчовай прамысловасці, у лістападзе, - «Стары млын». Дарэчы, не думайце, што наша піва ў параўнанні з той жа расейскай «Балтыкай» надта слабое. У Беларусі і ў Расеі - розная сістэма вылічэння долі спірту ў піве. У іх - па масе, у нас - па аб'ёму. Вылічэнне па масе (таму што піва цяжэй за ваду) дае большыя лічбы мацунку. Так што ад расейскіх паказчыкаў смела можна адлічваць па 0,8-1,0 працэнта спірту.

А ў распрацоўках нашага завода - новы гатунак піва «Дракон» з гушчынёю 17 працэнтаў і ўтрыманнем спірту - 7 працэнтаў. Рэцэптура распрацаваная, але калі атрымаецца, дык толькі па будучы год. Дарэчы, не ўсе разумеюць розніцу паміж гушчынёй і мацункам піва. Гушчыня - звычайна ад 11 да 18 працэнтаў - паказвае колькасць цвёрдых рэчываў у піве і нічога агульнага з алкаголем не мае. «Абарочтасць» піва ў залежнасці ад утрымання спірту бывае такая: лёгкае піва - 3-4 працэнты, піва сярэдне моцнае - 4-5 працэнтаў, моцнае - 5-8 працэнтаў. Існуе заканамернасць: разам з гушчынёю ўзрастае і мацунак.

- Вы лічыце піва нацыянальным беларускім напоем?

- Безумоўна, так. І мы ўсім раім яго піць.

**Алена Сіневіч**

# Белыя ночы ў верасні

**У галерэі «У майстра» ідзе першая персанальная выстава графічных работаў Алены Кузняцовай.**

Карціны зробленыя ў тэхніцы каляровай графікі, прычым у склад выставы ўвайшлі і прыклады дэкаратыўных работаў.

Вернісаж атрымаўся па-сяброўску цёплым і камерным, як таго і патрабуе мяккая графіка Алены Кузняцовай. Яе творы вылучаюцца з гарадзенскай графічнай школы (якую характарызуе вастрыня і кантраснасць лініі, напружаны драматызм сюжэтаў) менавіта настроем мяккасці ды гармоніі. Нездарма ж атмасферу, якая ўтварылася на адкрыцці выставы, параўноўвалі з той, якая бывае падчас белых начэй. Магчыма, эфект асвятлення незаходзячага паўночнага сонца атрымаўся дзякуючы асабліваму колернаму складу графікі Алены. Мастачка актыўна выкарыстоўвае жоўта-ружовыя, бэзавыя фарбы - якраз тыя, што мы бачым на захадзе і ўсходзе сонца.

Адно слова, якое належыць хутчэй лексіцы хімічных навук, падыходзіць для лаканічнага азначэння выставы. Слова гэтае - завісь - азначае нешта, што знаходзіцца як бы ў стане бязважкасці, вольнага палёту. Жыве сабе, і не падае на зямлю, і не адлятае ў космас. Алена Кузняцова вынайшла сваю лінію відарысу, якая не падзяляе неба і зямлю напалам, а наадварот - аб'ядноўвае іх. Як, да прыкладу, на карціне «Ранняя вясна». Дрэвы, хаты, цэрквы ў мастачкі нібыта лунаюць, прычым не ў паветры, а ў малочным тумане. Такое ўражанне, што і людзі ў ейным творчым сусвеце не любяць збіваць ногі аб зямлю, а перасоўваюцца больш прыемным спосабам - па той самай мяккай завісі.



Алена Кузняцова ля адной са сваіх работаў

Выставай Алены Кузняцовай галерэя пасля летняга перапынку адкрыла свой новы сезон. На вернісажы Ірына Працко, дырэктарка выставачнай залы Саюза мастакоў заўважыла, што выставачная дзейнасць у Гродне трымаецца выключна на прамграфіках. Так што, трэба думаць, сёлета нас чакае яшчэ шмат графічных выставаў.

Акрамя графічных карцінаў Алена Кузняцова ілюструе дзіцячыя кніжкі і нават мае патэнт на вынаходніцтва.

У нашым горадзе мастачка жыве 12 гадоў. Нарадзілася ж яна ў Северадзвінску. Скончыла Строганаўскае вучылішча, аддзяленне прамграфікі.

**Алена Сіневіч**

# Кароткі блік кароткага жыцця

**Выстава жывапісу і фота Віктара Залецкага, што адкрылася напрыканцы мінулага тыдня ў выставачнай зале Саюза мастакоў, не належыць да шэрагу звыклых. Гэта выстава памяці маладога мастака, які не дажыў да сваёй першай выставы.**

У дзень адкрыцця зала была поўная. Сюды завіталі тыя, хто ведаў і любіў Віктара, хто вучыў яго тайнам майстэрства, ягоныя сябры.

Як любы мастак, ён марыў пра сваю выставу. Звычайным «Зенітам» здымаў пейзажы, нацюрморты. На свае грошы друкаваў па некалькі вялікіх фотаздымкаў у лабараторыі «Кодак». Кіраўнік курсавой работы за III курс Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта Антон Ляшчынскі прыгадаў, што Віктар «быў не выпадковы чалавек у мастацтве. Яго работы гаварыць пра асэнсаваны пошук, а не сляпыя спробы. Віктар мог ціха, але пераканаўча гаварыць пра свае работы, бо разумеў сам, што робіць... А гэта і адрозніввае майстра - ведаць, што хочаш рабіць - тады толькі застаецца шукаць, якім чынам гэта зрабіць. Але ён не паспеў знайсці...».

Віктар Залецкі скончыў тры курсы мастацкага аддзялення ГрДзУ імя Я.Купалы. Да гэтага чатыры гады вучыўся ў Гарадзенскім вучылішчы мастацтваў. Аляксандр Ласмінскі, старшыня фотаклуба «Гродна», адзначае, што гэтая асоба ўзнікла ў асяроддзі фотамастакоў раптоўна і адразу прыцягнула ўвагу. Ужо першыя Віктаравы спробы ўражвалі хараством сюжэтаў, глыбокім пранікненнем у «таямніцы свету і прыроды».

Першая выстава, у якой узяў удзел Віктар Залецкі, была летась у Англіі. У Гродне ягоныя творчыя працы выстаўляліся ў галерэі «Тызенгаўз» і ва універсітэце. Дарэчы, гэта былі жывапісныя работы. Менавіта ад жывапісу мастак прыйшоў да фатаграфіі. У фотаклубе «Гродна» яму рыхтавалі запрашэнне на міжнародны фотапленэр у Польшчу.

Але здарылася трагедыя, якую без пераўвелічэння пераживала ўсё творчае асяроддзе Гродна. Чэрвеньскім вечарам, калі Віктар са сваёй дзяўчынай вяртаўся са здымкаў на Нёмане, яго збіў п'яны кіроўца «BMW». Хуткасць машыны перавышала 150 кіламетраў у гадзіну. У апошні момант Віктар адштурхнуў у бок сваю дзяўчыну, чым выратаваў ёй жыццё. Наперадзе - суд, кіроўца «BMW» павінен панесці пакаранне, але... Сям'я страціла сына, мы страцілі таленавітага мастака. На выставе ўдзень адкрыцця былі і словы захаплення маладым талентам Віктара, і слёзы горычы ад незаменнай страты, і кветкі, і запаленыя знічкі. Цяпер многія пачынаюць бачыць містычны знак трагічнага лёсу, ранняй смерці ў работах мастака. Тыя ж, хто ўпершыню будзе знаёміцца з творчасцю Віктара Залецкага, яшчэ раз упэўняцца ў тым, якая няўлоўная і недаўгавечная на гэтым свеце прыгажосць.

**Алеся Макоўская**

# Імператар ходзіць у жоўтым

**Да 17 верасня будзе доўжыцца выстава кітайскага нацыянальнага касцюма, што наладжана ў Авальнай зале Новага замка.**

Гэта ўжо не першая выстава, арганізаваная сумесна Дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеем і Кітайскай амбасадай у Беларусі. Да гэтага гарадзенцы мелі магчымасць пазнаёміцца з экспазіцыямі кітайскага мастацтва - веерамі, акварэлямі, батыкам.

На названай выставе паказана некалькі дзесяткаў параў (мужчынскае і жаночае ўбранні) касцюмаў. Цывілізацыя краіны, якая сёння завецца Кітай, узнікла недзе ў V-II тысячагоддзі да нашай эры. Сёння Кітай - надзвычай шматнацыянальная краіна. Самая вялікая нацыянальная супольнасць - ханьцы - складае амаль 92 працэнты насельніцтва. Акрамя ханьцаў існуюць яшчэ 55 народнасцяў.

Як відаць з выставы, аснову кітайскага касцюма складаюць доўгія штаны і свабодная расхінная кофта ці халат на тасёмнай завязцы. Жаночы касцюм - кофта, плахта і спадніца - адрозніваюцца пышным дэкорам і шматколернасцю. Адразу кідаецца ў вочы вытанчаная стракатасць і яркасць строяў. Дамінуюць белы, чорны, чырвоны (як і ў беларускім касцюме) колеры. Але шмат жоўтай, бэзавай, травяной фарбаў. У кітайскім народным касцюме кожная фарба і дэталь мае пэўнае значэнне. За асноў жыцця кітайцы лічаць сімвалічнае яднанне неба і зямлі, дзвюх процілегласцяў, якое ажыццяўляецца праз дождж. Таму асноўны матыў арнаменту складаюць хвалі, воблачныя стужкі ды спіралі - сімвалы грому і маланкі. Колеры таксама сімвалізуюць кожны сваё: зялёны - вясну, чырвоны - лета, сонца, агонь, жоўты - спелы хлеб, багацце, белы - восень і поўныя засекі белага рысу. Згодна з колернай сімволікай жоўты лічыўся імператарскім колерам.

Адметнай асаблівасцю кітайскага, як і іншых усходніх касцюмаў, з'яўляецца адсутнасць гузікаў. Адзенне мацуецца з дапамогай завязак, пампонаў з тканіны.

Акрамя багатай экспазіцыі касцюмаў выстава аздобленая каляровымі мастацкімі фотаздымкамі. Падчас яе працы гучыць музыка. На фота - кітайскія красуні выглядаюць на яркія экзатычныя кветкі, а мужчыны - як самураі. Кітайцы шануюць свой нацыянальны касцюм і да гэтай пары ў святочныя дні выходзяць на вуліцы менавіта ў нацыянальным убранні. Выстава будзе доўжыцца да 17 верасня.

**Ганна Стадоліч**

# Новае выданьне з Ашмянаў

**У Ашмянах распачалося выданьне «Інфармацыйнага бюлетэню Ашмянскай моладзі «Цінэйджэр».**

Заснавальнікам бюлетэню зьяўляецца моладзевая суполка «Цінэйджэр». Матэрыялы выданьня друкуюцца на беларускай і расейскай мовах. Больш дэталёвую інфармацыю наконт выданьня можна атрымаць па адрасе: вуліца Міцкевіча,61-4, Ашмяны, 231100. E-mail: Civil_Forum@mailru.com

**Кроніка**

# Пакрочыць па свету Гарадзенскі клуб паэтаў

**Пасьля выхаду ў ПАГОНІ жнівеньскага літаратурна-мастацкага выпуску «Дэкада» група гарадзенскіх літаратараў вырашыла стварыць уласны клуб.**

Клуб будзе існаваць як нефармальная суполка, якая злучыць у сваіх шэрагах не толькі паэтаў, але і празаікаў, крытыкаў, бардаў. Карацей, усіх аматараў мастацкага слова. Асноўнай задачай клуба будзе з'яўляцца актывізацыя літаратурнага жыцця на Гарадзеншчыне, папулярызацыя найбольш вартых мясцовых аўтараў у Беларусі і за яе межамі, наладжванне творчых сустрэчаў і вечарынаў, актыўнае супрацоўніцтва з іншымі грамадзкімі арганізацыямі. Ядро клуба склалі прафесійныя літаратары з Гародні, якія ўжо досыць вядомыя шырокаму колу чытачоў.

- Зьяўленьне клубу стала надзённай неабходнасцю, - гаворыць адзін з ініцыятараў стварэньня новай нефармальнай суполкі, выкладчык Гарадзенскага дзяржуніверсітэту імя Я.Купалы, сябра Беларускага ПЭН-цэнтру Юрась Пацюпа. - Я з настальгіяй згадваю пералом васьмідзесятых-дзевяностых, тыя цудоўныя часы, калі існаваў верш-гурт «Дыяген» і выдатная паэтычная суполка сяброўаднадумцаў. Але ў другой палове дзевяностых кожны з іх пайшоў па сваім шляху, працаваў індывідуальна і, па ўсім відаць, не бяз посьпеху. Гэта было заканамерна. Зараз, калі Менск больш ня здольны прапанаваць нам нічога цікавага, мы мусім дбаць пра імідж уласнага рэгіёну...

Варта адзначыць, што гарадзенскія літаратары заўсёды мелі высокі рэйтынг у сталіцы і адрозніваліся ад тамтэйшага мастацкага бамонду.

Першым сур'ёзным крокам Гарадзенскага клубу паэтаў стане выданьне паэтычнай анталогіі «Лябірынты прывіднага замку», у якую ўключаны творы Анатоля Брусевіча, Юрыя Гуменюка, Анжаліны Дабравольскай, Васіля Дзівашэвіча, Эдзіка Мазько, Юрася Пацюпы і Віктара Шалкевіча. Кніга выйдзе ў Беластоку напрыканцы кастрычніка. Там жа, на літаратурнай канферэнцыі «Бязьмежжа» адбудзецца ейная прэзентацыя. Больш падрабязна пра планы і дзейнасць Гарадзенскага клубу паэтаў - у бліжэйшым літаратурна-мастацкім выпуску ПАГОНІ.

**Адам Налібоцкі**

# «Прастора кахання» акупуе маладыя беларускія душы

**У суботу, 9 верасня, у актавай зале сярэдняй школы N26 прайшоў дзіўны семінар пад назвай «Прастора кахання».**

Арганізатарамі семінара стала грамадская ініцыятыва «Раўнадзенства» на чале з Аляксеем Катылеўскім, што вядомы ў горадзе як дырэкта агенцтва мадэляў «Залатое руно».

Мэтай семінара, які быў больш падобны да сустрэчы з грамадскасцю, было далучыць людзей да працы ў ініцыятыўнай групе пакуль што незарэгістраванага «Раўнадзенства». Ідэйным падмуркам ініцыятывы Аляксей Катылеўскі называе кнігі расейскага прадпрымальніка Уладзіміра Мегрэ, у якіх, як вынікае з семінара, прапагандуюцца так званыя эзатэрычныя веды. Наогул, планы «Раўнадзенства» даволі шырокія. Праз тыдзень-другі ў СШ N26 плануецца распачаць курс лекцыяў на аснове «вучэння чысціні намераў» некай жанчыны Анастасіі, што жыве адна ў сібірскай тайзе. Яна і нагаварыла тэксты кніг расейскаму прадпрымальніку Уладзіміру Мегрэ. А спадар Катылеўскі лічыць, што гэтае «вучэнне» неабходна папулярызаваць і ў Беларусі.

Вышэйназваны цыкл лекцыяў - частка Школы народнай мудрасці «Жывы вытак», якую плануе заснаваць Аляксей Катылеўскі. З раскладу лекцыяў вынікаюць наступныя тэмы: «Энергія чыстага кахання», «Пра адзінства стыхіяў», «Выхаванне інтэркасмічнай свядомасці» і гэтак далей. Акрамя таго, адной з формаў работы плануецца пасадка кедраў ля кургана Славы. Звяртае на сябе ўвагу такі факт: у дзяржаўнай установе адукацыі незарэгістраванаму грамадскаму аб'яднанню дазволена чытаць дзецям курс лекцыяў, які не прайшоў экспертызу на прадмет бясшкоднасці для дзіцячай псіхікі. Разам з тым, многае ў праекце «Школы народнай мудрасці» выклікае неўразуменне.

У сваю падтрымку Аляксей Катылеўскі папрасіў выступіць не абы-каго, а Магістра Духоўнага лекавання Алега Піцько, супрацоўніка органаў унутраных спраў на пенсіі, як ён сам прадставіўся. Спадар Піцько прыехаў у Гродна з Іркуцкай вобласці і належыць, як сведчыць візітоўка, да Прафесійнай медычнай асацыяцыі народных лекараў Расеі.

Апроч выхавання ў дзяцей «інтэркасмічнай свядомасці» Аляксей Катылеўскі думае ў хуткім часе адкрыць гандлёвы цэнтр, дзе будуць прадаваць кнігі, падобныя да напісаных Уладзімірам Мегрэ, кедравае масла і насенне ды іншае.

Паводле нашых звестак, адміністрацыя сярэдняй школы N26 не супраць занятка спецыялістаў з «Раўнадзенства» з вучнямі.

**Раман Хадкевіч**

# Могілкі і пахаваньні ў Навагрудку

**Нядаўна пабачыла сьвет кніга «Могілкі і пахаваньні ў Навагрудку». Кніга зьяўляецца свайго роду навуковай працай, першай такога кшталту ў краязнаўчых дасьледаваньнях.**

Аўтарам кнігі зьяўляецца вядомы краязнавец, дырэктар Навагрудскага Дома-музея Адама Міцкевіча. Кніга распавядае пра пахаваньні ў Навагрудку старажытных людзей, пра паганскія могілкі пачатку першага тысячагодзьдзя нашай эры, хрысьціянскія, татарскія (XV ст.), габрэйскія.

**БАРЦ**





# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14




## ПРАДАЮ

Мікрааўтобус «Баркас» (газ-бензін) + запчасткі. Тэл. у Лідзе 2-78-82 (пасля 16.00).

Левую фару ад «Audi-100», б/у; новы фотаапарат «Зеніт-21SX»; узмацняльнік «Вега-122 АС50»; лічбавую магнітолу «Tomashi». Тэл. 73-00-00 (аб.95352).

Дачу таварыства «Азот». Тэл. 31-23-97.

Дзвюхпакаёвую кватэру (2-і паверх) у раёне вуліцы Пушкіна: хатнія рэчы, сценка, кухня, стол, крэсла, канапа, трумо; а таксама каракулевую шубу. Тэл. 33-30-98.

Ложак (1,5); ручную швачную машынку, касметычны інгалятар «Рамонак». Усё б/у. Тэл. 74-09-19.

Універсальны кормазапарнік з нержавейкі. Тэл. 72-76-08.

Стары халадзільнік «Днепр» для дачы. Вельмі танна. Тэл. 47-32-06.

Баян у добрым стане, б/у. Тэл. 31-62-40.

Фотаапарат «Зеніт» у добрым стане, б/у. Танна. Тэл. 5-53-13 (запрасіць Дзіму).

Тэлевізар «Грюндик» (72 см), тэлевізар «Гарызонт-465» (62 см). Тэл. 6-35-52 (пасля 18.00).

Тэлевізар «Электрон» у працоўным стане (надзвычай танна); капот да аўтамабіля «Ford Sierra» (танна). Тэл. 2-65-60.

Ложак, два крэслы, кухню, пральную і швачную машыны. Усё б/у. Тэл. 74-09-19.

Картрыджы для 16-бітнай прыстаўкі «Sega» (па кошту 2,5 тыс. рублёў): Gemfire («Каштоўны агонь», прыгодніцкая ваенна-стратэгічная гульня); Mutant League Football (Мутанцкая футбольная ліга», амерыканскі футбол жахлівых мутантаў); Rock-N-Roll Rasing (аўтамабільныя гонкі іншапланецянаў); Ghost Busters («Паляўнічыя за прывідамі», прыгодніцкая гульня); 4-гульнёўку - Bare Knucle («Вуліцы гневу», баявая сюжэтная гульня, вулічныя бойкі), Caesar's Palace (азартныя гульні ў казіно: рулетка, косці, лато, 21 ачко, «аднарукі бандыт», відэапокер, скачкі, латарэя), Sonic-1 (прыгодніцкая гульня), Alien-3 (прыгодніцкі касмічны баявік па матывах к/ф «Чужыя»). Да ўсіх гульняў прыкладаюцца іх апісанні, коды, паролі, сакрэты, парады, гульнёвыя прыёмы. Тэл. 75-44-70 (запрасіць Святлану).

Старыя піўныя бутэлькі з надпісамі на шкле. Тэл. 75-33-55.

## КУПЛЮ

Настольную лямпу. Танна. Тэл. прац. 72-37-14, 72-29-96 (з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выхадных; запрасіць Святлану), хатні 75-44-70 (штодня, пасля 19.00).

Рухавік да аўтамабіля «Fiat Uno». Тэл. 74-33-94.

У растэрміноўку ці здыму пакой, паўдома, дом з гаспадарчымі пабудовамі каля Гродна (у бок Індуры). Танна. Тэл. (8-211) 43-1-70.

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

## ПАСЛУГІ

Рэпетытарства па ангельскай мове. Дасведчаны высокакваліфікаваны педагог. Тэл. 72-62-79.

Расейская, ангельская, балгарская, беларуская, польская мовы: пераклады, індывідуальныя заняткі. Тэл. 2-85-77.

Ангельская мова: афармленне дакументацыі, анкетаў, пераклады. Тэл. 31-15-83 (запрасіць Аляксандра).

Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліц. N1243, выдадзеная МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

Рэпетытарства па ангельскай і нямецкай мовах. Пераклады. Тэл. 6-12-71 (пасля 18.00).

Ангельская мова для ўсіх. Тэл. 76-38-02.

Сканаванне фотаздымкаў (камп'ютарная апрацоўка) тэкстаў, распазнаванне, набор і раздрукоўка (на лазерным, струйным ды іншых прынтарах) на IBM PC (руск., англ.). Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).

Рэпетытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

Усё па ангельскай, лацінскай і беларускай мовах. Тэл. 33-21-83.

Выраб ксеракопіяў у вялікай колькасці. Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).

Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтары. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.

Набор тэкстаў на камп'ютары, сканаванне, раздрукоўка на матрычным прынтары. Тэл. 76-55-16.

Ангельская мова: пераклады і кантрольныя работы. Хутка і якасна. Тэл. 31-15-83.

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па метадычы Р.Фоля. Ліц. МЗ РБ N224 да 30.XII.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

Кладу печы, каміны. Хутка, якасна, надзейна і прыгожа. Тэл. 6-46-32.

**Доктар С.Каляда**
Інтэнсіўная псіхатэрапія алкагалізму, залішняй вагі. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 (да 18.00). Ліц. N796 па 23 сакавіка 2004 г., МЗ РБ.

Відэаздымка. Якасна, прафесійна выканаем работы па стварэнню відэафільма пра Вашыя вяселле, лёс, юбілей, прэзентацыі. Мантаж, музычнае афармленне, цітры. Выканаем работы па ўтварэнню відэакліпа, рэкламнага роліка. Ліц. N613, выдадзеная МК да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Наш адрас: 231900, Гарадзенская вобласць, г.Ваўкавыск, а/с 17. Тэл. 2-34-86.

## РОЗНАЕ

Аддам кацянятаў у добрыя рукі. Тэл. 72-58-94.

Шукаю працу на прадпрыемстве па рамонту і зборцы мэблі. Тэл. 44-39-15.

Ахвотныя атрымаць кнігу Міколы Ермаловіча «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» дашліце замову, свой паштовы адрас і 2300 рублёў Алесю Міхайлавічу Сабаленку на адрас: 220131, Менск-131, п/с 268. Кнігу атрымаеце праз пошту. У Менску кнігу Міколы Ермаловіча можна набыць у сядзібе ТБМ, што месціцца ў Менску па вуліцы Румянцава,13. Тэлефон для кантактаў: 284-85-11.

Шукаю працу на прадпрыемстве па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

Замаўляйце і чытайце газэту беларускіх нацыяналістаў «Голас Краю». Выйшаў 7-8 нумар. Адрас для кантактаў: 230037, г.Менск, а/с 49.

Кнігу С.Астраўца «Цэнзарскія нажніцы» можна замовіць на выставе беларускай аўдыё-відэа-кнігапрадукцыі. Акрамя гэтага, на выставе з'явіліся новыя нумары часопіса «Arche»: «Arche-Скарына». Чакаем вас кожныя панядзелак і сераду з 17.00 да 20.00 па адрасу: г.Гродна, вуліца К.Маркса,11, 2-і паверх. Тэл. 2-34-68, 72-11-83 (запрасіць Андрэя).

Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванні падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41 (у любы зручны для вас час).

Шукаю працу на прадпрыемстве па абіўцы мяккай мэблі. Тэл. 44-39-15.

Будзем удзячныя за любую інфармацыю пра школьныя выдавецкія ініцыятывы на Гарадзеншчыне. Лістуйце: 230009, Гародня, а/с 30, ЛІЦЭЙ плюс ці yunela@mail.ru

Ручное вязанне. Тэл. 72-58-94.

Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні, альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...»; ці прыходзіць у рэдакцыю з купонам аб'явы і сваім пашпартам. Гэта дасць усе падставы меркаваць, што абвесткі наконт знаёмстваў належаць менавіта вам, паважаныя чытачы, а не тым, хто жадае з вас пажартаваць.

## ЗНАЁМСТВЫ

Шукаю сціплую жанчыну да 32 гадоў з добрым характарам для стварэння сям'і. Жыллём забяспечаны. Пісаць: 230025, г.Гродна, Галоўпаштамт, да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта КН 0571828.

Мужчына, 32/174, жадае пазнаёміцца з прыемнай ва ўсіх адносінах жанчынай для ўтварэння сапраўднай, моцнай сям'і. Лісты дасылайце на адрас: 230012, г.Гродна-12, да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта V-ДР N556632.

Мужчына, 28/190, мае жаданне пазнаёміцца з жанчынай да 40 гадоў для сустрэчаў. Пішыце на адрас: 230025, г.Гродна, Галоўпаштамт, прад'яўніку пашпарта КН 0003645.

## ВІНШАВАННІ

Бабруйская філія Маладога Фронту віншуе *паважанае спадарства* з Днём Беларускай Вайсковай Славы!!! Зычым усім аптымізму і веры ў будучыню нашай Беларусі. Жыве Беларусь!!! Жыве вечна!!!

*Паважаныя калегі!* Сардэчна віншуем Вас з Днём Беларускай Вайсковай Славы! Зычым посьпехаў ва ўсіх справах і плённае працы на карысьць нашае Бацькаўшчыны. Жыве Беларусь!

**ЦМІ «Контур»**









## Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». Авальная зала. Выстава - «Кітайскі народны касцюм». Сенатарская зала. Дзейнічае экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў»; выстава, арганізаваная Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі рэлігіі, - «Вобраз Маці Божай у іканапісу».

**Галерэя «У Майстра» (вул. Кірава, 14).** Вернісаж гарадзенскай мастачкі Алены Кузняцовай. Графіка.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Працяг выставы каляровых фотаздымкаў памяці Віктара Залецкага.

**Музей Гісторыі Гарадніцы (вул. Ажэшкі, 37).** Выстава батыку вучняў восьмага класа сярэдняй школы N31.

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вул. Ажэшкі, 39а).** Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Лядовы палац спорту.** 26 верасня ў 20.00 - канцэртнае выступленне расейскага гурта «И.К.С.- Миссия».

**Вуліца Паповіча.** Чэшскі **лунапарк «Прага»** прапаноўвае: сучасныя атракцыёны, добрае абслугоўванне, папулярную музыку. Парк працуе штодня: з панядзелка па пятніцу - з 14.00 да 23.00; у суботу і нядзелю - з 11.00 да 23.00.

**Тэатр лялек.** 17 верасня - адкрыццё 20-га тэатральнага сезону. У 12.00 - прэм'ера спектакля «Казка вандроўнага лялечніка». Для дарослых - «Тутэйшыя». Пачатак спектакля - у 19.00.

**Моладзевыя дыскатэкі**

**Начны клуб «Клетка»** - з 20.00 да 06.00 (чацвер - нядзеля).

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00 (акрамя панядзелка і аўторка). Працуе кафэ-бар (серада - нядзеля).

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**Калізей-2000.** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальнае і стрыптызшоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.

**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

34 **Імя і прозвішча** ____________________

**Адрас (тэлефон)** ____________________

**Рубрыка** ____________________

**Тэкст** ____________________

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11



ПЯРЭСТЫ КУТ

# Аўстралія. Вясна. Алімпіяда!

**Учора ў Сіднэі ўрачыста адчыніліся апошнія Алімпійскія гульні XX стагоддзя. Што чакае беларускіх алімпіёнікаў у краіне кенгуру і качкадзюбаў? Разам з усімі заўзятарамі спорту ў нашай краіне ПАГОНЯ будзе ўважліва сачыць за разьвіцьцём падзеяў у сонечнай Аўстраліі.**

Праўда, асабліва пацешыцца сонцам на Зялёным кантыненце спартоўцам з усяго сьвету давядзецца наўрад ці - у Аўстраліі цяпер ранняя вясна і тэмпература паветра амаль такая ж, як зараз у нашай краіне.

Алімпіяда фактычна стартавала яшчэ ўчора, калі распачаўся алімпійскі футбольны турнір. Аднак беларусы ў шлях за медалямі яшчэ не рушылі. Натуральна, што наша асноўная ўвага будзе тычыцца найперш выступаў гарадзенцаў. Тым больш, што менавіта сярод нашых землякоў найбольш рэальных прэтэндэнтаў на медалі. Асаблівыя надзеі ўскладаюцца на лёгкаатлетаў. Менавіта ў гэтым відзе спорту нашу краіну прадстаўляюць тытулаваныя Уладзімер Дуброўшчык (дыск) ды Ігар Астапковіч (молат), а таксама перспэктыўныя Людміла Губкіна (молат), Іван Ціхан (молат) ды Яніна Карольчык (ядро). Кожны зь іх пры ўмове выхаду на пік формы ў патрэбны час здольны паказваць высокія вынікі. Ёсьць падставы спадзявацца на добры выступ барцоў грэка-рымскага стылю Валерыя Цыленця і Віталя Жука.

Што да іншых гарадзенцаў, то іх шанцы выглядаюць больш сьціпла. У апошні момант (ужо ў Аўстраліі) у асноўны склад гімнастычных камандаў трапілі Іван Паўлоўскі ды Тацяна Грыгарэнка. Але калі Іван яшчэ мае шанцы разам з Іванам Іванковым ды іншымі хлопцамі на медалі каманднага першынства, то Тацяне (як і яе зямлячцы Тацяне Жарганавай) спадзявацца амаль няма на што - наша жаночая каманда слабей за мужчынскую, а ў асабістым заліку час перамогаў нашых дзяўчатак яшчэ не прыйшоў.

Ужо ў Сіднэі з лаўкі рэзервовых у асноўны склад былі пераведзены герой Барсэлёны-92 пісталетчык Канстанцін Лукашык. Цяпер у Канстанціна, як і ў Ірыны Шылавай, ёсьць магчымасьць пасаромець некаторых функцыянэраў ад спорту, якія мелі намер з падачы старшыні Нацыянальнага Алімпійскага камітэту краіны (па сумяшчальніцтву - ППРБ) адчапіць ад алімпійскай каманды «турыстаў» - г.зн. спарцменаў, якія не маюць шанцаў на медалі. На тое, што гэтыя самыя патэнцыйныя «турысты» не раз і не два заваёўвалі для сваёй краіны медалі розных турніраў, а свае алімпійскія ліцэнзіі заваявалі ў барацьбе з атлетамі з іншых краінаў, неяк адразу паспрабавалі забыцца. І забыліся б, калі б не ўзьнялі свой голас некаторыя беларускія зоркі спорту ды СМІ. У выніку некаторыя з спарцменаў ледзь не ў апошні момант атрымалі свой алімпійскі шанец, а краіна - магчымасьць зарабіць валюту. Справа ў тым, што ўдзел спарцменаў у Алімпіядзе цалкам аплочае Міжнародны Алімпійскі камітэт. Больш таго, за кожнага спарцмена, які трапляе ў пратакол спаборніцтваў, будзе выплачана 1200 амэрыканскіх даляраў. «Турыстамі», адпаведна рашэньню беларускага НАКа, было прынята абвясьціць каля 50 атлетаў, якія заваявалі правы выступаць у Атланце. Памножце гэтую лічбу на пазначаную вышэй суму і атрымаеце не самую сьціплую суму грошай ў цьвёрдай валюце.

Але хопіць пра каляспартыўныя інтрыгі. Да выхаду ў сьвет наступнага нумару ПАГОНІ мы ўжо будзем ведаць вынікі выступаў многіх з нашых алімпійцаў. Ну а пакуль скажам проста: «Посьпехаў вам, земляке!»

**Вітаўт Руднік**



**Па гарызанталі:** 7.На ім - вочап. 8.Возера на Віцебшчыне. 10.Насуперак уладам, ён усюды вывешвае бел-чырвона-белыя сцягі. 11.Самая старажытная форма эксплуатацыі. 12.Мяшэчак для тытуню. 14.Сталіца еўрапейскай дзяржавы. 16.Пуга, вітая з канапель. 17.Міжнародная дамова. 19.Рака, што цячэ па мяжы Заходняй і Усходняй Сібіры. 20. «...пад сярпом тваім» (раман Ул.Караткевіча). 24.Смутак, маркота. 25.Урон, страта. 26.Сумка браканьера. 30.Паўвостраў у Цэнтральнай Амерыцы. 31.Бавоўняная тканіна. 32.Зборнік вершаў К.Кірэенкі. 33.Невялікі кішэнны нож. 34.Беларускі пісьменнік.

**Па гарызанталі:** 1.Беларускі пісьменнік. 2.Дадзеныя пра што-небудзь. 3.Марудны малюск з ракавінай. 4.Да пары ён ваду носіць. 5.Зброя янычара. 6.Кніга В.Іпатавай. 9.Тонкая насмешка. 13.Бакавы брус у дзвярной асадзе. 15.Апавесць І.Пташнікава. 17.Рад снапоў, пакладзеных на ток для абмалоту. 18.Ласунак з гарбуза. 21.Што вымяраецца спідометрам? 22.Хто прыдумаў «лямпачку Ільіча»? 23.Камедыя Янкі Купалы. 27. «Экстра» як катэгорыя. 28.Аўтар п'есы «Канстанцін Заслонаў». 29.Непрафесіянал. 32.Даўнейшая прымітыўная барана.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N 31 (478)**

**Па гарызанталі:** 3.Кірмаш. 4.Абрысы. 11.Сведка. 12.Разлад. 13.Коўдра. 14.Марыва. 15.Учынак. 18.Частка. 19.Дружка. 20.Нарада. 23.Аснова. 27.Вокліч. 28.Мастак. 29.Зрэнка. 32.Галота. 33.Агурок. 34.Печыва. 35.Абутак.

**Па вертыкалі:** 1.Чарада. 2.Абраза. 5.Прыпол. 6.Слімак. 7.Сварка. 8.Парада. 9.Прывід. 10.Ганчак. 16.Статак. 17.Вучань. 21.Асілак. 22.Абабак. 23.Ахапак. 24.Вярхом. 25.Роздум. 26.Скрыня. 30.Жоравы. 31.Бульба.

# Біць альбо не быць!

**10 верасьня. «Нёман-Белкард» - «Лакаматыў-96» (Віцебск) 3:0.**

Пасьля непераканаўчай гульні супраць «Ліды» і буйной паразы ў Барысаве гарадзенцам застаецца перамагаць усіх сваіх супернікаў. Толькі ў такім выпадку каманда гарантуе сабе месца сярод прызёраў чэмпіянату.

Няўдачы ў апошніх сустрэчах адбіліся на колькасьці заўзятараў на стадыёне. Калі перад пачаткам папярэдняй хатняй сустрэчы супраць «Ліды» ля касаў стадыёну стаялі доўгія чэргі, то гэтым разам на здабываньне квіткоў ішло не больш 1-3 хвілінаў. Праўда, часткова гэта тлумачыцца яшчэ і тым, што на стадыён можна патрапіць і без квітка. Спосабаў існуе некалькі. На маіх вачох на адной з папярэдніх гульняў нейкі спрытны дзяцюк праводзіў па некалькі чалавек скрозь жанчын-кантралёрак па ўжо скасаваных квітках. Кошт такой паслугі, як высьветлілася пазьней, складаў 300 рублёў, што ў два разы меней за кошт квітка.

Другі спосаб яшчэ больш просты. Скрозь вялікую шчыліну ў плоце насупраць гатэлю «Беларусь» пралез бы нават Партос, не кажучы пра гарадзенскіх хлопцаў, якія карыстаюцца шанцам паглядзець футбол задарма. Ну і нарэшце, можна проста пералезьці праз бетонную агароджу. Перад гульнёй з віцеблянамі на маіх вачох пад рэплікі размораных сонцам маладых міліцыянтаў кшталту «Глядзі, сыплюцца як гарох!» гэтым шляхам скарысталіся ня менш як пару сотняў чалавек. Лезьлі і падлеткі, і дзяцюкі сталага ўзросту, і дзяўчаткі ў спадніцах.

Але, напэўна, і сярод «зайцоў» і сярод «легальных» наведвальнікаў стадыёну ў гэты дзень было шмат тых, хто ўжо ў сярэдзіне першай паловы гульні засумняваўся, ці варта было ісьці на футбол. Абедзьве каманды пры ўсёй іх відавочнай руплівасьці не цешылі вока заўзятараў ні добрым пасам, ні трапнымі ўдарамі, ні хуткасьцю гульнёвай думкі. Яўна «нулёвы» настрой гульні зьмяніў кур'ёзны гол Мікалая Сімачова. Яго стрэл здалёк, падкарэктаваны абаронцам віцеблянаў, ускалыхнуў сетку за сьпіной небаракі Васюціна.

Акрыленыя нёманцы паляцелі наперад і цераз некалькі хвілінаў Давыдаў галавою накіроўвае мяч ў штангу, а Радушка скарыстоўвае аслупяненьне віцебскай абароны і з аднаго метру расстрэльвае чужую браму.

Трэці гол адбыўся на самым пачатку другога тайму. Гэта Давыдаў у штрафной пляцоўцы выкарыстаў чарговы ляп віцеблянаў і не пакінуў шанца Васюціну. Цікава, што яшчэ на пачатку гульні гарадзенскі нападнік атрымаў балючы ўдар па назе і не мог гуляць у поўную сілу. Але замена, якая здавалася непазьбежнай яшчэ ў першым тайме, адбылася толькі пасьля таго, як Сяргей забіў свой 12-ы гол у чэмпіянаце. Як тут не ўразіцца трэнэрскай інтуіцыі Сяргея Саладоўнікава?!

Перамога над «Лакаматывам-96» па-ранейшаму дае гарадзенцам шанцы прэтэндаваць на медалі. Разам з тым, наперадзе ў каманды надзвычай цяжкі каляндар гульняў. 17 верасьня ў Слоніме мясцовы «Камунальнік» будзе ўсімі сіламі імкнуцца ўзяць рэванш за ганебныя 0:8 ў Гародні. 21 верасьня ў госьці да нас завітае «Славія». Наперадзе сустрэчы і з двума асноўнымі канкурэнтамі за медалі - сталічнымі «Дынама» і «Тарпеда-МАЗ». Ад зыходу гэтых сустрэчаў у многім будзе залежаць, быць сёлета гарадзенцам ў ліку прызёраў, ці ў чарговы раз апынуцца ў зусім не «залатой» сярэдзіне.

БАТЭ- «Ліда» 5:0

**«Ведрыч-97» - «Камунальнік» 1:0**

**Віктар Людвіковіч**



ПАМЯТКА ДЛЯ НЕДАСВЕДЧАНЫХ ЖАНЧЫН

# Урокі чароўнага кахання

**Вы ведаеце, як ператварыць Вашага мужчыну ў ідэальнага каханка, як падараваць сабе і яму мацнейшую пачуццёвую асалоду, узаемнае сексуальнае задавальненне і ўцеху? Калі не - гэтыя ўрокі будуць Вам карысныя.**

**Урок 1. Чаго Вы жадаеце?**

Перш-наперш трэба разабрацца ў сваіх пачуццях, прыслухацца да сябе. Варта падумаць, якія асвятленне, музыка і водар настройваюць Вас на інтымныя зносіны. Звярніце ўвагу на тое, якая частка Вашага цела з большай гатоўнасцю адгукаецца на пяшчотныя дакрананні.

**Урок 2. Годзе саромецца!**

Некаторых жанчын раздражнее і крыўдзіць тое, што секс не прыносіць ім жаданага задавальнення. Часцяком жанчына інстынктыўна адчувае, чаго ад яе чакае мужчына, і верыць, што ён таксама разумее яе без словаў. А гэта не заўсёды так. Яшчэ адна перашкода разняволенню ў сексе - залішняя жаночая сарамлівасць.

**Урок 3. Выберыце зручны момант**

Калі Вы настроіліся на эратычную хвалю і вырашылі падзяліцца з Вашым мужчынам тым, што адкрылі ў сабе, знайдзіце для гэтага найбольш зручны момант. Пачакайце, пакуль ён чытае газету ці глядзіць фільм. Калі жадаеце, каб мужчына быў у добрым настроі і выдатнай форме, Вы павінны быць цярплівай, уважлівай і хітраватай.

**Урок 4. Час дзейнічаць!**

Нарэшце Вы знайшлі той момант, калі можна, да прыкладу, услых прыгадаць нядаўна ўбачаныя на экране любоўныя сцэны. Як здолееце, апішыце іх і спытайце, ці не хоча мужчына пасправаваць нешта ў гэтым духу. Калі ён з гатоўнасцю ўспрыняў Вашую прапанову - пераходзьце да большай канкрэтыкі. Калі мужчына насцярожыла сказанае Вамі і ён пачаў сумнявацца («Нягожа я раблю нешта не так?»), дзейнічайце больш асцярожна. Галоўнае - не спыняцца на дасягнутым. Няхай не засмучае Вас адсутнасць імгненнага выніку. З цягам часу Вашыя высілкі будуць узнагароджаныя - і Ваш мужчына ператворыцца ў ідэальнага каханка, пра якога Вы так марылі.

## Анекдот

На дыскатэцы хлопец падыходзіць да дзяўчыны:
- Вы танцуеце?
- Так.
- Ну, дзякуй Богу, а то я падумаў, што вас токам шарахнула.

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Надзвычай спрыяльным для асабістых і дзелавых сустрэчаў будзе аўторак. Варта не мае быць заняцца прафесійнымі справамі.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Паспрабуйце не браць удзелу ў рызыкоўных мерапрыемствах, каб пазбавіць сябе сур'ёзных ускладненняў. Прысвяціце выхадныя дні спакойнаму адпачынку на ўлонні прыроды.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** На гэтым тыдні лёс будзе выпрабоўваць Вашыя з каханым(-ай) адносіны на трываласць. Галоўнае - не сварыцца без прычыны і не канфліктаваць.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Запланаваце наведванне гасцей на ўікэнд. Будзённыя дні будуць насычаныя тэлефоннымі кантактамі, спатканнямі з важнымі людзьмі.

♌ **Леў (23.07-23.08).** У сераду і чацвер Фартуна будзе прыхільнай да ўсіх Вашых пачынанняў. Ваш псіхаэнергетычны патэнцыял будзе досыць высокім.

♍ **Панна (24.08-23.09).** У другой палове тыдня Вам удасца вырашыць мноства неадкладных праблемаў і завітаць у госці да каханага(-ай).

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Непажадана прымаць кардынальныя рашэнні і планаваць важныя пагадненні, што датычацца Вашай бліжэйшай будучыні.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Паспрабуйце пазбегнуць кароткачасовых непрыемнасцяў на працы і абмінуць канфліктаў ў адносінах са сваякамі.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Удалымі ва ўсім для Вас будуць панядзелак і пятніца. Шмат якія справы рэалізуеце хутчэй як звычайна.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Відаць, лепей Вам усё ж такі змяніць планы, калі наважыліся ў далёкую паездку. Варта рушыць у дарогу на наступным тыдні.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Зоркі варожаць Вам раманатычныя спатканні і каштоўныя набыткі.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Для таго, каб не скардзіцца на кепскае самаадчуванне, не плануйце на выхадныя дні справаў, якія будуць вымагаць фізічнай ды інтэлектуальнай актыўнасці.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 2 864 Наклад 7 140
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 13.09.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк,
камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей